# Беластоцкія НАВІНКІ

Чэрвень 2003 №1 Распаўсюджваецца бясплатна


## Prezydent A.Kwasniewski:

# PRASZU WASZAJ



# PADDZIERŻKI!

7-8 чэрвеня 2003 году Польшча сказала «так» уваходжаньню краіны ў склад Эўрапейскага Саюзу. Паводле афіцыйных зьвестак, каля 80% з тых, хто прыйшоў на рэфэрэндум, вырашыла разьвітацца з часткай свайго ўласнага сувэрэнітэту. Ці было гэта сапраўды народнае волевыяўленьне або вынікі галасаваньня былі брутальна падтасаваныя з дапамогай г.зв. «адміністрацыйнага рэсурсу»?

**Шаноўныя чытачы!**

Вы зьяўляецеся сьведкамі сапраўды гістарычнай падзеі – вы трымаеце ў руках першы нумар *Беластоцкіх Навінак*. Нарэшце на нашай роднай Беласточчыне зьявілася газэта, здольная поўна й аб'ектыўна асьвятляць жыцьцё Падляскага ваяводзтва, культурнае й палітычнае жыцьцё рэгіёну. Пакуль, канешне, нашае выданьне ў першы час будзе выходзіць нерэгулярна, аднак неўзабаве яно зойме свой пачэсны пасад сярод беластоцкай беларускамоўнай прэсы. Спадзяемся, што вы зь нецярплівасьцю будзеце чакаць нашых наступных нумароў. Да сустрэчы!

*Паэзія*

### Новыя ўніяты

Czy Unia, czy Białoruś,
Ці Ўсход ці Захад.
Хлусьня, фальсыфікацыя –
Уступленьне ў Эўрасаюз!
Малая жывёла
ў капіталістычных лапах!

Цо вы натварылі,
Незалежнага руху ілжэ-баяны-
песьняры?
Па вас стогнуць закраты,
З торбай па Эўропах пойдуць
сельскія жыхары,
Без заробкаў,
адзежа ў заплатах.

О, Беластоцкае ваяводзтва,
вышэй уздымі пераможны
сьцяг!
Іншы ў беларусаў шлях!
Потым без усякіх пытаньняў
і слоў
Падзяліць між сабой зямлю
прусакоў.
Нех Пан Бог дапаможа
Беларусам выйсьці да можа!

P.S. Што за дурацкі аншлюс?!
Згіне ня Польска, а Эўрасаюз!

Ежы Пшэнічны,
Беласток, 2003

**Прыгоды бравага польскага міратворца ШВЭЙКА падчас гуманітарнай апэрацыі ў Іраку**
стар.4

«Беластоцкія Навінкі» – абсалютна незалежная газэта беларусаў Беласточчыны. Выходзіць з чэрвеня 2003 г. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык-Падляскі. Адрас рэдакцыі: г. Беласток, вул. Газэты Выборчай, 9. Тыраж 299 экз. Надрукавана ў друкарні «Чорная Зорка», г. Беласток, вул. Сьвентакшыска, 3.

## Як разумець...

**...Выдзяленьне Польшчы ўласнага акупацыйнага сэктару ў Паўночным Іраку.**

У тым, што Польшча была ўдастоеная Белым Домам такой «узнагароды», бачыцца звычайны палітычны разьлік, пабудаваны на старым-добрым прынцыпе: «Мы цяпер павязаныя. Спакуха, сядзем усе!» Аднак, відаць, гісторыя палякаў нічаму ня вучыць. Прыгадаць хаця б падзел Чэхаславакіі, у якім Польшча ўдзельнічала разам з нацысцкай Нямеччынай, прыхапіўшы сабе жалкі кавалак чэскай Цешынскай Сілезіі. Потым немцы забралі яе назад, але ўжо разам з усёй Польшчай. Цяпер палякі, якія нейкіх дзесяць-пятнаццаць гадоў таму скандзіравалі «Саветы – дадому!», сутыкнуцца з падобнымі патрабаваньнямі з боку іракцаў і курдаў: «Палякі – дадому!» Адзінае, што праўда, засталося дасюль ня высьветленым: хто ж будзе фінансаваць прысутнасьць польскіх войскаў ва ўласнай зоне акупацыі. У бюджэце Польшчы такіх грошай няма. Але чаго ня зробіш для прэстыжу й фанабэрыіі польскіх уладных колаў.

**...Пляны Белага Дому перанесьці штаб-кватэру NATO з Брусэля ў Варшаву.**

Нядаўняя ваенная кампанія ў Іраку прадэманстравала Злучаным Штатам, што на Заходнюю Эўропу спадзявацца пустое. Нават саюзьнікі па вайсковаму блёку NATO, якія, здавалася б, павінны былі дапамагчы ў такой крытычнай сытуацыі, проста паказалі «фак». Ненадзейнасьць вайскова-палітычнага тылу прымушае Вашынгтон шукаць новых, больш надзейных (і больш залежных ад яго) саюзьнікаў у г.зв. «Новай Эўропе» – краінах былога Варшаўскага Дагавору, рэкрутаваных нядаўна ў «Паўночна-Атлянтычны Альянс». Менавіта гэтыя «новыя эўрапейцы» (Польшча, Чэхія, Вугоршчына і г.д.) услужліва і безаглядна падтрымалі новага «вялікага брата» ў ягонай агрэсіі. Адпаведна, заканамерна ўзьнікае пытаньне: «А што нам, крутым янкі, рабіць у прадажнай Заходняй Эўропе, калі ёсьць больш верныя саюзьнікі?» Да таго ж, штаб-кватэра ў выпадку яе пераносу ў Варшаву, будзе знаходзіцца непасрэдна на перадавой у выпадку канфлікту з Усходам і служыць надзейным гарантам сталай амэрыканскай прысутнасьці ў Цэнтральнай Эўропе.

**...Адмову кракаўскага мэра сустракаць прэзыдэнта ЗША Дж.Буша-малога падчас ягонага нядаўняга візыту ў Польшчу.**

Канфуз, які адбыўся ў Кракаве – заключнай і сымбалічнай кропцы ў праграме афіцыйнага візыту амэрыканскага прэзыдэнта ў Польшчы, сапраўды мае паказальнае значэньне. Справа ў тым, што польскія грамадзяне, у адрозьненьні ад ураду, ня кінуліся падтрымліваць заакіянскага зорна-паласатага агрэсара і даволі крытычна паставіліся да вайны. Найбуйнейшым цэнтрам антываенных настрояў у Польшчы, паводле агульнага прызнаньня, стаўся Кракаў. Менавіта таму прэзыдэнт Кракава не папёрся заламіўшы галаву вітаць ястраба вайны прэзыдэнта Дж.Буша, калі таму стрэльнула ў галаву наведаць старажытную сталіцу Польскага Каралеўства. Маўляў, калі мае выбаршчыкі не падтрымалі дзеяньняў гэтага дзядзькі Сэма, то чаму я буду зь ім вітацца. Буш пакрыўдзіўся і затаіў злобу. У гэтай сытуацыі насьцярожвае толькі той факт, што гэты выпадак быў адзіным, калі народ і выбраны прадстаўнік народу аказаліся па адзін бок барыкадаў. Уся ж астатняя польская палітычная эліта як ні ў чым не бывала піла халяўнае «шампанскае» на фуршэтах у гонар дарагога Джорджа Джорджавіча.

# Новая дэфэнзыва

## Беластоцкі ваявода ўзмацніў ціск на дзеячоў апазыцыі

Не пасьпелі адшумець нядаўнія скандалы вакол выкраданьня вядомых у Падляскім ваяводзтве апазыцыйных палітыкаў і забойства журналіста польскага тэлеканалу «Полсат» Дмітрыюша Пшэзавадзкага, як Беласточчыну захлёствае чарговая хваля парушэньняў правоў чалавека й свабоды слова. На гэты раз галоўнай мішэньню Беластоцкага ваяводы абраныя шэраг незалежных выданьняў, меркаваньне якіх надта ўжо кантрастуе з афіцыйным «нашым бачаньнем Падляскага ваяводзтва і ролі выяводы ў ім».

Нагадаем, што сёньняшні ваявода Беласточчыны – заядлы пілсудчык і фанатык эўрапейскай інтэграцыі – прыйшоў на сваю пасаду на хвалі народнай настальгіі па часах ваеннага становішча ў Польскай Народнай Рэспубліцы. Зь першых жа сваіх крокаў усенароднаабраны ваявода ўзяў курс на ўзурпацыю ўсёй улады на Беласточчыне, вынашваючы чысталюбівыя пляны заняць пасаду прэзыдэнта ўсёй Рэчы Паспалітай. Пад прэс патрапілі ўсе апазыцыйныя партыі і арганізацыі, што выступілі з крытыкай новага курсу на ўступленьне ў Эўрапейскі Саюз. Аднак, масавыя пратэсты, якія адбываліся пад лёзунгам «Эўропу ў дупу! Беласточчыну ў Беларусь!» жорстка падаўляліся. Афіцыйная ваяводзкая прапаганда не стамлялася паўтараць, што ўсе гэтыя пратэсты фінансуюцца з-за ўсходняй польскай мяжы, распускаючы пры гэтым чуткі, што нібыта дэманстрантам плацяць за ўдзел у антываяводзкіх пратэстах, прычым у беларускіх рублях. У выніку рэпрэсіяў, адзін зь лідэраў апазыцыі Сакрат Яновіч мусіў эміграваць у Беларусь, а апазыцыя вымушаная была прыгадаць досьвед заходнебеларускага камуністычнага падпольля і перайсьці да канспірацыйнай дзейнасьці.

Дасталося й мясцовым этнічным беларусам. Абвесьціўшы курс на канчатковую палянізацыю, ваявода пачаў цкаваньне беларускіх школак, газэт і культурніцкіх асяродкаў. Цяпер за тое, што размаўляеш у Беластоку на роднай беларускай мове можаш трапіць у паліцэйскі пастарунак як вораг ваяводы і патэнцыйны апазыцыянэр.

Міжнародная грамадзкасьць, у прыватнасьці ўрад Рэспублікі Беларусь, ужо выступілі з пратэстам, зьвярнуўшы ўвагу на недапушчальнасьць парушэньняў правоў чалавека і свабоды слова на Беласточчыне ●




Арышты, вобыскі, допыты – гэта ўжо стала неад'емным элемэнтам беластоцкай рэчаіснасьці.

**Янка Валенса**

# Зямля і Воля

## Большасьць сялянаў – супраць Саюзу




Як паказалі апошнія вывучэньні грамадзкага меркаваньня, праведзеныя напярэдадні рэфэрэндуму аб уступленьні Польшчы ў Эўрасаюз, пераважная большасьць польскіх сялянаў выступае супраць эўрапейскай інтэграцыі. Галоўнай прычынай свайго скепсысу рэспандэнты называюць страх перад таннай францускай й галяндзкай сельскагаспадарчай прадукцыяй, што захлыне Польшчу, пакінуўшы мясцовым вытворцам кукіш з мазавецкім маслам. Калі ўзяць пад увагу, што Польшча паводле эўрапейскіх стандартаў зьяўляецца сельскагаспадарчай краінай (каля 24% працаздольнага насельніцтва занятыя ў сельскай гаспадарцы), то тут ёсьць пра што задумацца кіраўніцтву краіны: паводле ўмоваў Эўрасаюзу гэты паказчык мусіць быць зьніжаны аж да 14%. Вядома, у такіх умовах ні пра якія датацыі земляробам казаць не прыходзіцца. Вось і заглядаюцца паны сахі і касы на ўсходняга суседа – Беларусь, дзе па словах тамтэйшага прэзыдэнта сельская гаспадарка зьяўляецца прыярытэтным кірункам. Асабліва моцныя такія настроі на Беласточчыне, дзе працэнт сельскага насельніцтва вышэй, чым па ўсёй краіне. Цяпер у кожнай хаце сяляне настройваюць свае радыёпрыёмнікі на хвалі беларускага радыё, каб пачуць мілыя сэрцу «Гаворыць Менск...» ды праслухаць зводкі з палёў і сэлектарную нараду, праклінаючы ў сэрцах рашэньні Ялцінскай канфэрэнцыі, паводле якой Беласточчына была адарваная ад Вялікай Радзімы ●

**Зьбігнеў Колас**

# Вынікі рэфэрэндуму сфальсыфікаваныя!

## Улады Беласточчыны выкарысталі славуты «адміністрацыйны рэсурс»




Добрым пахмельлем пасьля эўфарычнага адзначэньня вынікаў галасаваньня на рэфэрэндуме, паводле якіх больш за 80% прыняўшых удзел у галасаваньні выказаліся за ўступленьне краіны ў Саюз, сталася інфармацыя незалежных назіральнікаў з суседняй Беларусі. Як сьведчыць Сяргей Марцалеў, падчас галасаваньня, якое праходзіла аж два дні (7 і 8 чэрвеня), мела месца ўкідваньне нідзе не зарэгістраваных бюлетэняў, зафіксаванае на 12-ым участку для галасаваньня ў горадзе Беластоку. Факты парушэньня працэдуры галасаваньня былі зафіксаваныя і ў іншых месцах на Беласточчыне, што ставіць пад пытаньне словы ваяводы Падляшша аб «элегантнай перамозе прыхільнікаў эўрапейскай інтэграцыі». Абапершыся на выпрабаваны «адміністрацыйны рэсурс», які сфармаваўся яшчэ ў часы Войцеха Ярузэльскага, ваяводзе ня склала цяжкасьці «забясьпечыць» лепшыя паказчыкі галасаваньня па краіне. Як высьветлілася, маштабы падтасовак былі настолькі грандыёзныя (яўка была зафіксаваная ў 123%, а працэнт галасаваўшых «за» – 143%!), што пры падліку вынікаў галасаваньня ў маштабах усёй краіны дало станоўчы агульны рэзультат. Гэта пры тым, што ў іншых ваяводзтвах Польшчы па розных ацэнках галасаваўшых «за» было 46% пры яўцы 52%. Ня цяжка здагадацца, што пры такіх памерах фальсыфікацыяў тут не абыйшлося без удзелу чыноўнікаў на самых высокіх узроўнях, уключаючы прэзыдэнта краіны Аляксандра Рыгоравіча Квасьнеўскага. Аднак ня гледзячы на ўсю яўнасьць доказаў, на падставе якіх галасаваньне можа быць прызнанае як несапраўднае, эўрапейскія структуры глядзяць на гэта скрозь пальцы. Сам жа прэзыдэнт адкамэнтаваў гэтую сытуацыю наступным чынам: «Ды не хвалюйцеся вы! Будзе Польшча членам Эўрасаюзу ў 2004 годзе!»

***Здаралася, людзі сталага веку станавіліся падатлівай марыянэткай у руках палітычных махляроў***

Такая вапіюшчая дэманстрацыя беспакаранасьці сьведчыць толькі пра тое, што ўлады ўжо заручыліся падтрымкай пэўных колаў у Страсбургу і Брусэлі, зацікаўленых у як мага хутчэйшым прасоўваньні сваіх межаў на Ўсход.

Ня гледзячы на шырокія пратэсты эўраскептыкаў і прагрэсіўнай грамадзкасьці, якія адбываюцца амаль у кожнай падляскай вёсцы, урад працягвае палітыку гандлю сувэрэнітэтам краіны і ўжо прыступіў да перамоваў аб увядзеньні адзінай валюты ●

**Казімір Лепер,**
спэцыяльна для *Беластоцкіх Навінак*

# Візы? No pasaran!

## Увядзеньне візавага рэжыму з усходнімі братамі зноў адкладзенае

Колькі ўжо нас пужаюць, што неўзабаве паміж Польшчай і Беларусьсю будзе ўведзены візавы рэжым, і колькі гэты канец ваўчарызму чарговы раз адцягваецца.
Вось і на гэты раз пераход на візы ў стасунках паміж дзьвюма краінамі мусіў адбыцца 1 ліпеня 2003 году. Гэтая навіна нарабіла шораху па абодва бакі мяжы, асабліва ў асяродзьдзі кантрабандыстаў ды іншай публікі, для якіх галоўнай крыніцай для існаваньня зьяўляецца прыгранічны гандаль у асноўным папяросамі і сьпіртам. Паўстала натуральная патрэба неяк прыстасоўвацца да новых умоваў працоўнай дзейнасьці і скарэктаваць памер магчымых выдаткаў. Асабліва разумныя галовы, якія ў імгненьне канвэртуюць злотыя ў беларускія рублі й назад, раскінулі мозгамі й прыйшлі да высновы – чыста арыфмэтычна новы парадак выглядае даволі выгодна. Маркуйце самі. Сёньня кошт аднаразовага ваўчара па абодва бакі мяжы вар'юецца ў памерах ад 0,3 да 1 эўра. Калі ўзяць за канстанту, што адзін кантрабандыст-сьпіртавоз скатаецца туды-назад адзін раз на дзень, то за паўгады ён выдаткуе на ваўчар у сярэднім 90 эўра (за разьліку самага таннага). Цяпер прыгадайма, што меркаваны памер мультывізы на паўгады складае 50 эўра. Прыбытак відавочны. А калі яшчэ прыкінуць, што адзін чаўнок матаецца ў дзень па разоў дзесяць, то гешэфт выходзіць гут! У накладзе застануцца хіба што лахі-турысты, якія выкладуць палцінььнік за тое, каб папяліцца на Варшаўскую «Староўку».
Аднак тут, спадары-панове, час задумацца над сэнсам уводу віз як такога. Нагадаем, што пераход на візавы рэжым зь Беларусьсю ды іншымі краінамі Дзікага Ўсходу робіцца пад ціскам Эўрасаюзу, часткай якога неўзабаве стане й Польшча. Ахова зьнешніх межаў Саюзу ад markaznaga кшталту чумазай галоты і нелегальных гастарбайтэраў з краінаў Трэцяга Сьвету зьяўляецца прыярытэтным напрамкам г.зв. «эўрапейскай калектыўнай бясьпекі». Таму Польшчы як «форпосту эўрапейскай цывілізацыі на Ўсходзе» прыгатаваная роля адстойніку для featured розвага кшталту «нежаданых для эўрапейскасьці асобаў».
Як гэта адаб'ецца на магчымасьці бесьперашкоднага атрыманьня віз для грамадзянаў абодвух краінаў пакуль што невядома. Хаця заўжды можна знайсьці «валасатую руку», якая аформіць візу і кантрабандысту, і віетнамцу зь беларускім прозьвішчам. Так гэта будзе ці йнакш, пабачым 1 студзеня 2004 году – чарговы рубеж візафікацыі ●




«А ў кантрабандыста сталёвыя нэрвы...»

**Вацлаў Гусьлік**

### Ноў-хаў

## Сьпіртаправод праз мяжу

**Як кажуць на Вялікай Радзіме, «Голь на выдумку хітра». Пакуль калегі па цэху працягваюць разьбіраць вагоны цягнікоў прыгранічнага курсаваньня, хаваючы ў шчылінах і сутарэньнях плястыкавыя пакеты са сьпірцягай, двое жыхароў вёскі Крынкі, што недалёка ад беларускай мяжы, паспрабавалі ўнядрыць досьвед кантрабандыстаў сьпіртавога профілю зь літоўска-беларускай мяжы. Ноў-хаў заключалася ў наступным: пад зямлёй была пракладзеная труба – своеасаблівы сьпіртаправод, па якім зь беларускай тэрыторыі бесьперашкодна качаўся сьпірт за кардон. Натхніўшыся тэхналягічнай навінкай, Казік Т. і Юзік Пш. позна ўначы зьнялі ў суседа-ксяндза вадаправодныя трубы й прабуравілі скважыну ад сваёй вёскі ў раён беларускай Вялікай Бераставіцы. Калі ж працы былі завершаныя, сьпіртапракладчыкі вырашылі закачаць пробную партыю сьпірту. Аднак тут у справу варта было ўмяшацца выпадку. Праводзячы звычайнае патруляваньне дзяржаўнай мяжы, нарад польскай Стражы Гранічнай зьвярнуў увагу на неадэкватныя паводзіны службовай сабакі па мянушцы Квас. Сабака ўвесь час адбягаў у кусты, а калі вяртаўся, паводзіў сябе досыць дзіўна: размахваў хвастом, брахаў матам, на заўвагі калег-пагранічнікаў не рэагаваў, адмаўляўся выконваць свае службовыя абавязкі. Калі ж пагранічнікі зазірнулі ў кусты, то заўважылі лужыну, якая вельмі знаёма пахла. Паліцыянты, якія знайшлі пагранічнікаў, высьветлілі, што прычынай сьпіртавой лужыны сталася ўцечка ў сьпіртаправодзе, па якім і вылічылі праводчыкаў.**

# Супраць межаў

### *На польска-беларускай мяжы адбудзецца міжнародны лягер пратэсту супраць палітыкі ўзмацненьня памежнага рэжыму і ператварэньня Эўропы ў крэпасьць*

**Летні сэзон акрамя часу водпускаў і падарожжаў для звычайных абывацеляў даўно ўжо ператварыўся ў сапраўдную гарачую пару для анархістаў, экалягістаў ды іншых антыглябалістаў. І наша старонка тут не выключэньне. Штогод сотні валасата-дрэдастых маладых людзей з усёй Эўропы зьбіраюцца на свой схадняк каля невялічкага падляскага мястэчка Крынкі, якое знаходзіцца прыкладна на палове шляху ад Горадні да Беластоку. На адзін тыдзень спакойная вёска і яе ваколіцы ператвараюцца ў разьюшаны драпежнікам мурaвейнік. Канцэрты, гулянкі, а часам і адмыслова справакаваныя невядомымі сутыкненьні з прадстаўнікамі мясцовых ўладаў і ахоўнікамі правапарадку. Звычайна так праходзіць міжнародны «Лягер супраць межаў».**
**Што ж прымушае гэтак званых альтэрглябалістаў (навамоднае слова, што абазначае прыхільнікаў альтэрнатыўнага глябальнага парадку** – рэд.**) перціся стопам у нашую захудалую «глыбінку»? Даць камэнтар па гэтаму ды іншых пытаньнях мы папрасілі аднаго з даўніх удзельнікаў і арганізатараў лягеру «Супраць межаў» Сою Тамашэвіча.**

**Б.Н.:** ***Якія задачы ставіць перад сабой праўдзенье штогадовага лягеру?***

**С.Т.:** Перш за ўсё мы імкнемся не дапусьціць стварэньня паміж Усходняй і Заходняй Эўропай новай «жалезнай заслоны», курва, і тым самым не дапусьціць парушэньня аднаго з асноўных правоў чалавека – права на свабоднае перасоўваньне, курва. Як вядома, спачатку нашым урадам плянавалася ўвядзеньне візаў для грамадзянаў Беларусі, Расеі і Ўкраіны ўжо з 1 ліпеня 2003 году. Але пад націскам грамадзкасьці дата была перанесеная на 1 студзеня 2004 году. І мы лічым, што ў гэтай, хоць і маленькай перамозе ёсьць і доля нашай заслугі, курва.

**Б.Н.:** ***Чаму лягер праводзіцца менавіта ў Крынках?***

**С.Т.:** Ну, курва, гэта зроблена чыста з практычных пабуджэньняў. Як вядома, большая частка ўдзельнікаў – людзі небагатыя. А так дарога абыходзіцца нядорага. Перасек мяжу і, лічы, на месцы.




**Б.Н.:** ***Ці ўзьнікаюць у вас праблемы зь мясцовымі жыхарамі?***

**С.Т.:** Пераважна, не, курва. Людзі разумеюць, што закрыцьцё мяжы не прынясе ім ніякай выгоды, хутчэй наадварот. А таму яны проста вымушаныя быць на нашым баку, і ў большасьці падтрымліваюць лёзунгі лягеру. Адзіныя, з кім узьнікаюць пытаньні, гэта паліцыя. Так ужо павялося, што прадстаўнікі ўладаў ў кожнай акцыі пратэсту бачаць Прагу альбо Геную. Курва.

**Нагадаем, што сёлета лягер супраць межаў адбудзецца ў Крынках з 2 па 9 ліпеня ●**

**Рыгор Абрамоўскі**

### *Ліст у рэдакцыю*

# Жахі нашага Гарадка

## Чарговы фэстываль «Басовішча» нясе новыя клопаты жыхарам ваколіцаў

*Шаноўная рэдакцыя!*
*Пішуць вам занепакоеныя жыхары Гарадка, што недалёка ад Беластоку. Гарадок у нас ціхі і ўтульны, і не было б на што скардзіцца, каб не наступная акалічнасьць. Вось ужо каля 15 гадоў у нашым Гарадку праводзіцца штогадовы фэстываль беларускай рок-музыкі «Басовішча», які арганізоўвае беластоцкае Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў (БАС). Хто абраў менавіта наш Гарадок для гэтай вакханаліі, а не, напрыклад, Бельск-Падляскі або Гайнаўку, так і засталося невядомым. (Інакш даўно з гэтым скурвысынам мы б разабраліся!) Аднак цяпер з году ў год акурат у сярэдзіне ліпеня мы вымушаныя цярпець гэты жах. З усёй Беласточчыны і Беларусі зьбіраецца хеўра патлатых і размаляваных панкаў. Праз гэтыя дні акруга проста гудзіць ад гітарнага брынканьня і ўдарных установак, што ўначы немагчыма й вачэй самкнуць. А што ўяўляе наш Гарадок падчас гэтага шабашу – сэрца крывёй абліваецца! На кожным вуглу гэтая рознамоўная моладзь п'е, блюе і засірае наваколье за гэтыя нейкія тры дні так, што нам, тутэйшым жыхарам, прыходзіцца разграбаць сьмецьце да першых маразоў. І ўсё нашто – каб на наступны год зноў усё загадзілі?! А летась гэтыя «фэстывальшчыкі» вытапталі начыста пасевы ячменю, што не было чаго нават курам даць.*
*Сёлетняга «Басовішча», якое адбудзецца 18-20 ліпеня, мы, жыхары Гарадку, чакаем як кары боскай. Мы ўжо шукалі праўды і ў ваяводы Падляшша, і ў пракуратуры, і ў Гаагскім трыбунале – усё марна. Адзіная надзея засталася на вашае выданьне. Калі ласка, дапамажыце пакласьці канец гэтай вакханаліі. Або прынамсі паведамце нам, хто нясе адказнасьць за тое, што менавіта наш Гарадок стаўся беларускім рок-алькагольным Сан-Рэма?*
*З павагай,*

***жыхары Гарадку***
*(1273 подпісы)*

# «НОВАЯ ЭЎРОПА»

